**Ідзе падпіска на “Народную Волю” на снежань 2017-га і першую палову 2018 года. Не спазніцеся!**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 92 (4241)**

21 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СКАЗАНА!**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА: «Не варта забіраць у войска адзінае дзіця ў сям’і…»



Уладзіслаў Будзік прызначаны начальнікам 72-га гвардзейскага аб’яднанага вучэбнага цэнтра падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў Узброеных сіл. Адпаведнае кадравае рашэнне прыняў сёння Аляксандр Лукашэнка, паведамляе БЕЛТА.

«*Тое, што адбылося ў вашай часці, – гэта катастрофа! Я не перабольшваю. Усялякае ў войску бывае, але ў беларускім войску гэта катастрофа, бо мы заўсёды ганарыліся, што ў нас адсутнічае дзедаўшчына. Яно сапраўды так. Я далёкі ад таго, каб гэтая пляма лягла на ўсё войска, як там некаторыя нашы апаненты пaпісвалі ў інтэрнэце. Гэта армія. Зразумела, што гэта спецыяльная, суровая служба, і яна заўсёды будзе такой. Але дзедаўшчына непрымальная*», – падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка падчас прызначэння У.Будзіка начальнікам 72-га гвардзейскага аб’яднанага вучэбнага цэнтра.

Кіраўнік краіны прызнаўся, што вельмі хваравіта рэагуе на падобныя выпадкі ў беларускім войску. «*Нам бацькі аддаюць самае дарагое, што ў іх ёсць. А атрымліваюць што?*» – задаў ён рытарычнае пытанне.

Кіраўнік дзяржавы заўважыў, што ў структуры МУС выпадкі дзедаўшчыны не адзначаюцца. «*Там па-людску ставяцца да хлопцаў, і амапаўцы дай бог падрыхтаваныя. Таму бярыце прыклад там, як трэба з моладдзю размаўляць. Адносіны павінны быць чалавечымі*, – звярнуў увагу Аляксандр Лукашэнка. – *Не трэба баяцца, каб лішні раз бацькі прыехалі, асабліва ў гэты перыяд, калі яны* (навабранцы. – ***Рэд.***) *знаходзяцца ў «вучэбцы». Можа быць, нават часцей іх адпускаць. Што здарыцца, калі ён раз у месяц на дзень-два паедзе і дома пабудзе?*»

Лукашэнка нагадаў, што калісьці маладых людзей, калі яны былі адзінымі дзецьмі ў сям’і, маглі і не прызываць у войска. «*Трэба праанлізаваць гэтую практыку. Гэта адзіны сын, адзіная апора, надзея*», – адзначыў кіраўнік дзяржавы. З іншага боку, ён канстатаваў, што многія бацькі з задавальненнем адпраўляюць дзяцей служыць, бо армія – добрая школа жыцця. «*У мяне дзеці служылі ў спецпадраздзяленнях і поўзалі на мяжы так, як мае быць. Але яны прайшлі праз гэта*», – дадаў Аляксандр Лукашэнка.

Звяртаючыся да міністра абароны Андрэя Раўкова, Лукашэнка падкрэсліў, што такая закасцянеласць у войску непрымальная. «*Я спадзяваўся, што вы з гэтымі пытаннямі справіцеся, а вы іх не бачыце пад бокам, у Барысаве. Гэта катэгарычна непрымальна*, – заявіў кіраўнік дзяржавы. – *Ніколі не было такой плямы на арміі, як у сувязі з гэтым*».

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што даручыў праваахоўным органам абавязкова дапусціць маці загінуўшага ў Печах вайскоўца Святлану Коржыч да следчых мерапрыемстваў. «*Калі яна хоча камусьці задаць пытанне, хай задасць. Хаваць не трэба, як бы там сітуацыя ні разгортвалася. І я вас перасцерагаю ад заўчасных высноў. Усё павінна быць сумленна*», – звярнуў увагу ён.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў моц, з якой жанчына перанесла гэта гора. «*Наогул яна малайчына, абсалютна разумны чалавек. Не ведаю, як бы я на гэта рэагаваў. Крый божа камусьці гэта перажыць! Але яна майму прадстаўніку кажа: «Я не хачу, каб нехта быў пакараны несправядліва». Зразумела, калі мы несправядліва кагосьці пакараем, мы знойдзем яшчэ адну праблему: пакрыўдзіць чалавека, які не здзяйсняў гэта злачынства. Таму яна павінна быць дапушчана да следчых дзеянняў, хай гэта ў законе не прадугледжана, не важна. Гэта надзвычайны выпадак, гэта маё асабістае рашэнне*», – сказаў кіраўнік краіны.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, раней ім таксама дадзена было даручэнне генеральнаму пракурору Аляксандру Канюку і старшыні КДБ Валерыю Вакульчыку сустрэцца са Святланай Коржыч. «*Які б ні быў вынік расследавання, усё павінна быць сумленна, справядліва, каб мама была ў курсе справы*», – перакананы кіраўнік дзяржавы.

Ён папярэдзіў, што падобныя здарэнні ў войску больш не павінны паўтарацца.

«*Я потым і разбірацца не буду. Мы і так жорстка паставіліся да камандзіраў і начальнікаў гэтай часці і іншых, хто быў да гэтага датычны. І крымінальную справу мы давядзём да лагічнага завяршэння, гэта дакладна. Я кантралюю яго з трох пазіцый і спецыяльнымі метадамі сачу за тым, як яно расследуецца. Глядзіце, каб яно было расследавана да дробязяў. Але справядліва, нічога не трэба нацягваць*, – сказаў ён. – *Гэта такі абуральны факт, які падштурхоўвае нас да таго, каб лішні раз паглядзець на нашу армію. Армія павінна быць па-сапраўднаму беларускай, плоць ад плоці нашага народа. Наш народ заўсёды быў лагодным. І не павінна быць у арміі гэтых здзекаў, разбораў у сувязі з гэтым. Каб там быў парадак – гэта датычыцца ўсіх Узброеных сіл*».

Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, што Уладзіслаў Будзік зможа навесці парадак у Печах. «*Я выберу час і пабываю ў вас там. Можа, гэта і мая віна, што я, будучы галоўнакамандуючым, у гэтай галоўнай нашай часці не пабываў. Але я ў вас пабываю абавязкова*», – рэзюмаваў кіраўнік дзяржавы.

**БЛІЦ**

## Колькі кандыдатаў у дэпутаты зможа вылучыць ваша партыя на выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў?

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада»:**

– Нікольні. Таму што ў мясцовай улады няма ніякай улады. А выкарыстоўваць выбарчую кампанію для таго, каб пагаварыць з людзьмі, – дык мы і так гаворым, калі трэба...

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі:**

– Калі б былі сапраўдныя выбары, то мы вылучылі б 1000 чалавек. А так – чалавек 60 ад нас будзе. І гэта тыя людзі, у якіх мы больш-менш верым, якія прайшлі праз навучанне і якія не зробяць потым для нас праблем, калі іх прызначаць дэпутатамі. Так, мы прагназуем, што падчас гэтай кампаніі ўлада зноў будзе “прызначаць” кагосьці з апазіцыі, і таму мы вылучаем тых кандыдатаў, за якіх ні пры якіх абставінах сорамна не будзе.

**Георгій АТАМАНАЎ, другі сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі:**

– Па горадзе Мінску магу сказаць дакладна: мы вылучаем кандытатаў па ўсіх 57 акругах. Што тычыцца лічбаў па краіне, то пакуль не гатовы назваць дакладныя звесткі, бо гэтым займаюцца абласныя і раённыя камітэты партыі. ЦК проста каардынуе іх дзейнасць, а на месцах ужо самі вырашаюць, каго хочуць бачыць дэпутатам.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, першы намеснік старшыні Ліберальнай партыі Беларусі:**

– Мы вылучым амаль у два разы болей, чым на мінулых мясцовых выбарах, калі было зарэгістравана крыху больш за 120 кандыдатаў. Таму цяпер будзе каля 300 кандыдатаў. Прычым усе яны будуць вылучаны ў абласныя і гарадскія Саветы – мы на гэта робім асноўны ўпор. Што тычыцца сельскіх і раённых, – то яны будуць ахоплены вельмі выбарачна.

Па Мінску і Мінскай вобласці нашы кандыдаты будуць ва ўсіх акругах. І па кожнай вобласці нашы людзі таксама будуць выстаўлены ў кожнай акрузе.

Трэба, каб людзі ведалі, што ЛДП – гэта не толькі Гайдукевіч, у нас шмат цікавых людзей.

**Ірына ВЕШТАРД, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– На сённяшні дзень па спісе, можа, і маем 80 чалавек, нават і больш. А колькі застанецца – будзе бачна.

Не думаю, што гэтыя выбары прынясуць нам поспех, што нашы кандыдаты стануць дэпутатамі. Мне не верыцца, што выбары будуць празрыстымі і справядлівымі, што я як назіральніца змагу ўвачавідкі назіраць за тым, як будуць лічыць галасы. Я больш веру ў тое, што ўлада, можа, там-сям і “прызначыць” дэпутатаў, як гэта здарылася падчас парламенцкіх выбараў.

**Васіль ЗАДНЯПРАНЫ, старшыня Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці:**

– Пакуль не гатовы назваць канкрэтныя лічбы: якраз напрыканцы тыдня будзем праводзіць пасяджэнне партыі на гэты конт. Але на выбары мы ідзём, а колькасць нашых вылучэнцаў абмяркоўваецца. Некалькі дзясяткаў чалавек як мінімум будзе.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ, выканаўца абавязкаў старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ:**

– Калі будуць выбары, тады і вылучым кандыдатаў. А тое, што ў чарговы раз ладзіць рэжым, мы не лічым выбарамі. І мяне, шчыра кажучы, здзіўляюць людзі, якія раз за разам наступаюць на адны і тыя ж граблі. Цікава, як яны самі пры гэтым сябе адчуваюць? Так і хочацца ім парэкамендаваць: вы альбо крыжык здыміце, альбо трусы апраніце...

**Уладзімір БЕЛАЗОР, старшыня Рэспубліканскай партыі:**

– Мы пакуль думаем, ісці на выбары альбо не. І думаць ёсць над чым, прычым вельмі сур’ёзна. Напрыклад, што сёння прадстаўляюць сабой мясцовыя Саветы, які ўплыў яны маюць і на што?

Ці яшчэ – вось вы бачылі рэйтынг партый, які апублікаваў Інстытут сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук? Там замест рэйтынгу партый – нейкія сацыялагічныя выбрыкі! Ну што такое 2,6% альбо 0,7% для партыі? Вось вам і ўвесь беларускі палітычны працэс! І не партыі ў гэтым вінаваты, паверце мне...

**Алег НОВІКАЎ, намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя»:**

– Мы пакуль не вызначыліся з канчатковым фарматам нашага ўдзелу ў выбарах. Час яшчэ ёсць. Але дакладна, што нашых кандыдатаў будзе няшмат.

**Зміцер САЛОШКІН, намеснік старшыні Партыі БНФ:**

– У нас на сённяшні дзень пакуль няма канчатковай максімальнай лічбы, але да вылучэння падрыхтаваны 40 асоб. Аднак кандыдатаў можа быць і больш – мы зараз якраз у працэсе вылучэння, таму лічба можа павялічыцца. Прынамсі, мы працуем на гэта.

**Мікалай УЛАХОВІЧ, старшыня Беларускай патрыятычнай партыі:**

– У нас будзе з’езд на пачатку снежня, вызначымся, усё скажам.

Да выбараў мы рыхтуемся, але я не хацеў бы падрабязна распавядаць пра гэта.

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі левых «Справядлівы свет»:**

– Ад нас на выбары пойдзе прыкладна 120 чалавек.

Я ведаю, што апазіцыю і кіраўнікоў партый, у прыватнасці, папракаюць тым, што, маўляў, усяго павінна быць абрана больш за 18 тысяч дэпутатаў мясцовых Саветаў, а апазіцыя вылучае мізэр! Але на тое ёсць пэўныя прычыны. Усе разумеюць, што выбараў у нас няма. Многія канкурэнтаздольныя людзі кажуць: навошта потым тлумачыць выбаршчыкам, чаму не прайшоў у дэпутаты? Ну і не сакрэт, што для многіх працуючых выбары – гэта дадатковы клопат. І калі чалавек на працы аб’яўляе, што хоча пайсці на выбары, у яго часцей за ўсё пытаюцца: “Табе патрэбны праблемы?”

Вось і ўсё тлумачэнне, чаму такое стаўленне да гэтых выбараў...

**Марына КОКТЫШ.**

**ЗДАРЭННІ**



## Страшнае ДТЗ пад Шчучынам

Сур’ёзная аварыя на дарозе Беліца–Жалудок–Ражанка (Шчучынскі раён) здарылася ў нядзелю каля 17.00. Сутыкнуліся «Сеат» і «Ровер».

У аўтамабілі «Сеат» элементамі кузава былі заціснуты 18-гадовы кіроўца і пасажырка, яго аднагодка. Яны былі дэблакіраваны і перададзены супрацоўнікам “хуткай дапамогі”, паведамілі ў Гродзенскім абласным упраўленні МНС. Таксама медыцынская дапамога аказвалася яшчэ аднаму пасажыру «Сеата» і чатыром чалавекам, якія ехалі ў «Роверы».

Пяцёра з пацярпелых у аварыі шпіталізаваны, прычым чацвёра – у рэанімацыйнае аддзяленне.

«З пераломамі сцёгнаў дастаўлены 17-гадовая дзяўчына і 18-гадовы хлопец, у 22-гадовага мужчыны дыягнаставаны разрыў тонкай кішкі. Чацвёрты пацыент – 17-гадовы юнак – атрымаў чэрапна-мазгавую траўму», – паведамілі ў бальніцы.

**КАДРЫ**

## У мінскай міліцыі новы начальнік

Учора Аляксандр Лукашэнка прызначыў кіраўніком мінскай міліцыі **Сяргея Дарошку**, які дагэтуль з 2012 года ўзначальваў Дэпартамент выканання пакаранняў. Цікава, што папярэднік Дарошкі – **Аляксандр Барсукоў**, які пайшоў на павышэнне і стаў намеснікам міністра ўнутраных спраў, таксама да прызначэння галоўным міліцыянерам Мінска ўзначальваў Дэпартамент выканання пакаранняў.






**АКТУАЛИИ**



Светлана КАЛИНКИНА

## ЖУТЬ на болоте

Если бы собрались вместе все аналитики всех аналитических центров, желающие очернить Беларусь (я в существование таковых, конечно же, не верю, но официальная пропаганда утверждает, что они есть), то до такой спецоперации по дискредитации страны они не додумались бы.

И Франция, и Великобритания, и все англо- и франкоязычные пользователи интернета за последних полтора месяца вдоволь наслушались о белорусских ужасах. Что-то прочитали, что-то домыслили – и получилась не страна, а какая-то жуть на болоте. А все из-за чего?

24-летний француз Жолан Вийон, живущий в Великобритании, отправился в путешествие по Европе: Испания, Италия, Словения, Хорватия, Венгрия, Австрия, Словакия, Польша, Литва, Беларусь… Но дальше при пересечении белорусско-украинской границы он был задержан и помещен в гомельский СИЗО по обвинению аж в двух статьях белорусского Уголовного кодекса.

Он – ни слова по-русски, правоохранители, персонал изолятора, адвокат, которого предоставило белорусское государство, – ни слова по-английски, а тем более по-французски. В общем, попал человек. И в прямом смысле слова – пропал, ведь только когда спустя три недели после задержания Жолан сумел передать на волю письмо, которое было отослано его родным, стало известно о его судьбе.

История случилась дичайшая. Во Франции и Великобритании в интернете началась настоящая спецоперация по спасению парня из ада, сбор денег на адвоката, кампания солидарности, рассказы о жути белорусских реалий.

«Он скоро покроется льдом», «душ только один раз в неделю», «вода только холодная», «порции еды мизерные», «чтобы мог пить, дали старую ржавую металлическую кружку»… Об этом всем – об условиях содержания в белорусских СИЗО – узнал весь мир и ужаснулся, что такое может быть не в людоедском, а в европейском государстве в XXI веке.

Откуда же, из чего взялись аж две статьи Уголовного кодекса, по которым французскому гостю грозило до семи лет лишения свободы? Может, это страшный преступник, которому жалко дать даже ржавую кружку? И вот тут начинается самое интересное.

В Польше некто Павал подарил Жолану Вийону патрон. Достал из какой-то емкости на этажерке, сказал, что сувенирный, на память. А Жолан в армии не служил, в патронах не разбирается – поблагодарил, кинул в карман рюкзака и поехал дальше.

Из Польши – в Литву, потом – в Беларусь. При въезде в нашу страну об этом сувенире даже не вспомнил, и все прошло гладко. А вот при выезде, при прохождении белорусско-украинской границы, Вийон специально пошел по «красному коридору», чтобы предъявить патрон и убедиться, что его провозом никакие законы не нарушает. И попал в ад.

Сам таможенник позже, в суде, свой уровень английского оценил как «постыдный». Он мало что понял из того, что ему говорил француз. Но, что-то заподозрив, жестами показал: мол, доставай свои вещи. И Вийон сразу же, первым, достал из кармана рюкзака маленький патрончик.

В итоге – СИЗО и угроза лишения свободы до семи лет за «незаконные действия в отношении огнестрельного оружия и боеприпасов и перемещении их через границу». Абсурд, до которого нарочно бы думал – не додумался!

Вчера, в понедельник, суд именно так произошедшее и расценил. И после двух месяцев заключения вынес решение оправдать Жолана Вийона прямо в зале судебных заседаний за отсутствием состава преступления. Жолан был счастлив. Сказал, что никакой компенсации с белорусского государства требовать не будет, что вряд ли когда-нибудь в нашу страну вернется, что, несмотря ни на что, в СИЗО ему встретились хорошие люди, сел в машину французского посольства и уехал. Но все же это не история с хеппи-эндом.

Сколько извилин надо иметь, чтобы понять, что человек, который сам подходит к таможеннику и предъявляет патрон, не является преступником и не имеет никакого злого умысла? И, скажите, какой был смысл бросать его сразу за решетку?

Какой логикой надо руководствоваться, чтобы за один злосчастный патрон грозить статьей, по которой срок наказания от трех до семи лет лишения свободы? Это ведь то же самое, что судить человека за наркотики, потому что у него с собой бутылочка корвалола. В деле Вийона даже прокурор признала, что такое наказание – слишком, и просила применить «ниже низшего» – всего лишь штраф. Но так везет далеко не всем.

Наконец, почему мы тратим много сил и нервов на то, чтобы улучшить имидж Беларуси за рубежом, нанимаем пиар-компании, мобилизуем армию дипломатов, журналистов, лоббистов, но перечеркнуть все это в любой момент может какой-нибудь Вася Пупкин в погонах? Уровень знаний которого – постыдный, уровень понимания государственных интересов – щелканье каблуками…

Ладно, на таможне оказалась смена солдафонов, бывает. Но ведь потом подключился Следственный комитет, адвокат, прокуроры. И никто – никто! – оказался не способен быстро остановить абсурд. Ни одна служба!

И вот это настоящая беда нашего государства – круговая порука. «Эксцессы исполнителя» случались и случаются везде, но только у нас государственная машина не в состоянии им противостоять, потому что прежде всего защищает честь мундира. Защищает до абсурда.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Сколько депутатов нужно для полного счастья?

Небезызвестная Лидия Ермошина предложила постепенно перейти от выборов депутатов сельских Советов к выборам глав сельской администрации.

То есть совмещать выборность и депутатского корпуса, и глав исполнительных структур она считает нецелесообразным? Или депутаты на низовом уровне просто не нужны? А на районном уровне – нужны? А на областном? И сколько вообще депутатов должны защищать права и интересы трудящихся избирателей, чтобы избиратели наконец стали жить лучше?

В Минске, как мы помним, районные Советы были ликвидированы за полной ненадобностью. Теперь интересы жителей двухмиллионной белорусской столицы представляют пятьдесят семь депутатов городского совета. Хорошо представляют? И в чем это представление заключается?

Лидия Михайловна внезапно дала понять, что от отсутствия в нашей жизни депутатского корпуса – по крайней мере на уровне сельсовета – ничего не изменится. Лучше не станет: они не получают заработной платы, не влияют на принятие судьбоносных государственных законов и даже лампочки в подъезде не вкручивают. Но и хуже не станет – по тем же самым причинам.

Это – на уровне села. А на уровне города? Ликвидация советов во всех столичных районах ведь формально тоже ни на что не повлияла. Ликвидируют их вообще – никто и не заметит.

В Украине – заметили бы. Депутат районного совета – не в Киеве даже, а в одном из районов, скажем, Полтавской области – большой человек. Он может затребовать любую документацию по своему району (не округу, а району!), и ему немедленно ее предоставят. Он имеет право проверить в рамках своих полномочий деятельность районной администрации, а также администрации тех сельсоветов, которые входят в его округ. Он лоббирует интересы школ и поликлиник, входящих в его округ, разбирается с письмами жалующихся избирателей. И – делит бюджет. По закону о децентрализации, принятому в Украине еще в 2015 году, местные общины обладают бюджетом, который можно делить. Депутаты определяют, где и сколько нужно потратить, чтобы народ чувствовал изменения. Где поставить новую остановку или изменить маршрут общественного транспорта. Где отремонтировать дорогу, ведущую к поселку. Где закупить новое оборудование для фельдшерского пункта.

Это и есть – политика. За право осуществлять эту политику сражаются парламентские партии – и сражаются ничуть не менее ожесточенно, чем на выборах в Верховную раду.

Вы скажете: ну, так то в Украине…

Да, в Украине полномочия депутатов, прописанные в Конституции, достаточно широки. Но мы помним, что большинство населения в 1996 году в Беларуси поддержало Конституцию, урезавшую депутатские полномочия. Или не так? Или вы уже не помните, за что голосовали?

Тогда не жалуйтесь, что депутаты плохо защищают ваши интересы. Вы сами отняли у себя право быть защищенными от произвола исполнительной власти. Вы сами постепенно отказались от контроля за ее деятельностью. И Лидия Михайловна, кстати, охотно вам предоставила такую возможность, шаг за шагом содействуя еще и урезанию полномочий наблюдателей на выборах. Так, по крайней мере, у вас был шанс выбрать в депутаты тех, кто реально думал бы о вас. А сейчас остается лишь надеяться на депутатскую совесть. И нет гарантии, что совесть эта проснется как раз в тот момент, когда нужно именно вам, а не власти, которая вас обидела. Может и не проснуться.

Кстати, об обидах. Никого обидеть не хочу. Но статистика показывает: чем больше запросов делает депутат местных Советов (то есть, чем эффективней пытается он защищать ваши права), тем меньше у него шансов переизбраться на следующий срок. Исполнительная власть порой считает его скандалистом, а кому нужны скандалы? Все тихо, все шито-крыто. И вот тот, кто добросовестно трепыхался, лишается мандата.

Не верите? Сходите на прием к депутату местного Совета и посмотрите, сколько человек записалось на встречу со своим избранником. Боюсь, что немного. Причем как раз те, кто в 1996 году добросовестно сделал свой выбор против полномочий местных Советов. И сейчас эти же люди жалуются…

Кому и на кого жалуются? Это уже – совсем другая история…



ЗАКУЛІССЕ

Мікола СТАТКЕВІЧ:

# «І мы пачулі адзін аднаго…»

*На мінулым тыдні віцэ-канцлер Германіі, міністр замежных спраў **Зігмар Габрыэль** сустрэўся з беларускім апазіцыянерам **Мікалаем Статкевічам.** “Народная Воля” пацікавілася падрабязнасцямі іх дыялогу.*

– Сустрэча для мяне была раптоўнай, – *шчыра гаворыць Мікалай Віктаравіч.* – Зранку дачка напісала пра тое, што на яе выйшлі з каманды віцэ-канцлера – яны шукалі мой тэлефон. Кацярына і Зігмар Габрыэль знаёмыя, таму што, калі мяне ў 2010 годзе пасадзілі, яна каля дзвюх тысяч лістоў накіравала нямецкім палітыкам і ва ўсе тамтэйшыя сродкі масавай інфармацыі. Кацярына сустракалася і са спадаром Габрыэлем, калі я быў пад арыштам, мае ягоныя кантакты.

**– Калі не памыляюся, ваша дачка стала жыве ў Германіі?**

– Так, і я забараніў ёй вяртацца ў Беларусь. У Германіі яна вучылася.

Кацярына вельмі хоча сюды прыехаць, але я супраць. Бо лічу гэта небяспечным. Мы маем досвед сям’і былога прэм’ер-міністра Міхала Чыгіра, экс-кіраўніцы Нацбанка Тамары Віннікавай, калі дзеці рабіліся закладнікамі сітуацыі з-за сваіх бацькоў.

Дык вось, вяртаючыся да вашага пытання: мне патэлефанавалі з нямецкай амбасады і прызначылі час сустрэчы. Удакладнілі, ці магу я прыйсці на сустрэчу ў пасольства са сваім перакладчыкам – відаць, каб я мог цалкам давяраць чалавеку, які будзе перакладаць мае словы.

**– Як думаеце, чаму міністр замежных спраў Германіі вырашыў з вамі сустрэцца?**

– Таму што захацеў сустрэцца не толькі з Лукашэнкам і яго міністрамі. Так званую канструктыўную апазіцыю нямецкаму міністру паказалі толькі з трыбуны – і то на кароткі час.

Да таго ж мы з Уладзімірам Някляевым звярнуліся з лістом да кіраўнікоў Еўрапейскага Саюза, разаслалі яго па ўсіх каналах і сацыял-дэмакратычных партыях розных краін. Магчыма, гэта таксама паўплывала.

Я вельмі ўдзячны за гэтую сустрэчу і паважаю такі крок віцэ-канцлера Германіі.

**– Колькі часу вы размаўлялі?**

– Сустрэча была не вельмі доўгай – крыху больш за паўгадзіны. Гэтага часу мне хапіла, каб выкласці сваю пазіцыю.

**– На некаторых сайтах напісалі, што размова была не самай дыпламатычнай. Што мелася на ўвазе?**

– Ну, нехта ж павінен казаць праўду-матку пра тое, што робіцца ў краіне, шчыра і без усялякіх упрыгожванняў рэчаіснасці.

Недыпламатычнасць, мабыць, была ў тым, што я крытыкаваў пазіцыю кіраўніцтва Еўрапейскага Саюза ў адносінах да беларускага дыктатара. Выказаў сваё вядомае стаўленне да мэтазгоднасці “сімвалічных” сустрэч вышэйшых еўрапейскіх палітыкаў з Лукашэнкам. На мой погляд, гэта проста псуе рэпутацыю еўрапейцаў. У рэшце рэшт, ці не занадта шмат увагі ўплывовыя замежныя палітыкі надаюць Лукашэнку?..

Пры гэтым я сказаў, што не супраць дыялогу з беларускай уладай, але дыялог – гэта калі два бакі ідуць насустрач адзін аднаму. А тут атрымліваецца, што толькі Еўрасаюз робіць такія крокі, а Беларусь, на жаль, стаіць на месцы.

Я распавёў пра эскалацыю рэпрэсій з боку рэжыму супраць незалежнага грамадства, пра арышты ўдзельнікаў мірных акцый пратэсту, пра збіцці, катаванні і правакацыі супраць арыштаваных сяброў Народнай Грамады і Беларускага нацыянальнага камітэта. Пра спробы звесці на той свет Уладзіміра Някляева, пра фабрыкацыю крымінальнай справы супраць лідараў прафсаюза РЭП, пра палітвязняў.

Дарэчы, мой перакладчык быў з РЭПа, і сам праходзіць сведкай па справе прафсаюзнага лідара Генадзя Фядыніча. І ў яго, нягледзячы на тое, што ён проста сведка, таксама правялі вобшук і забралі камп’ютар!

Спадар віцэ-канцлер выклаў мне свае аргументы наконт палітыкі Еўрасаюза. І мы такім чынам пачулі адзін аднаго.

Увогуле, вельмі добра, што такая сустрэча адбылася. Гэта сведчыць пра тое, што не ўсе еўрапейскія палітыкі ў адносінах з нашай краінай забыліся на салідарнасць.

**– Спадар Мікола, а вам не прапаноўвалі прытулак у Германіі?**

– Мяне сапраўды запрашалі пераехаць, гэта было яшчэ перад маёй першай “хіміяй” у 2007 годзе.

Са мной на тэму эміграцыі ўвесь час праводзяць размовы. Нават у турме камерныя агенты заўсёды падымаюць гэтую тэму. Была нават такая гісторыя, што мне прапаноўвалі разам з жонкай жыць у Чылі. Але ўсе выдатна разумеюць маю рэакцыю і пазіцыю. Беларусь – мая краіна. І я адсюль не з’еду...

**Марына КОКТЫШ.**

РЭПЛІКА

# У Беларусі – прыблізна 40–73 еўра, у Германіі – 25–50

Як вядома, будучая выбарчая кампанія абыдзецца рэспубліканскаму бюджэту прыкладна ў 10,6 мільёна долараў. Пры гэтым выдаткі на матэрыяльна-тэхнічную частку складуць толькі 17% ад гэтай сумы, астатняе пойдзе на зарплату людзей, якія будуць забяспечваць правядзенне кампаніі.

А колькі грошай з кішэні беларускага падаткаплацельшчыка ідзе менавіта на аплату працы членаў участковых выбаркамаў? Тым, хто падлічвае нашы галасы падчас галасавання і каму, давайце скажам чэсна, стопрацэнтнага даверу з боку выбаршчыкаў няма.

На мінулых мясцовых выбарах у 2014 годзе Лідзіі Ярмошынай такое пытанне задалі падчас анлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА. Старшыня ЦВК адказала, што заработная плата членаў участковых камісій *“вельмі маленькая”: “200 тысяч рублёў як мінімум за 14 гадзін працы, таму што 12 гадзін працуе выбарчы ўчастак і яшчэ дзве-тры гадзіны доўжыцца падлік галасоў”.* На той момант 200 тысяч раўняліся прыблізна 10 еўра. Але ж у Беларусі ёсць яшчэ такая форма галасавання, як датэрміновая. Колькі плацілі членам выбаркамаў за працу ў гэтыя 5 дзён, Ярмошына не ўдакладніла. Аднак у 2015 годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў журналісты “Еўрарадыё” датэлефанаваліся ў фінансавы аддзел Цэнтрвыбаркама і атрымалі поўную інфармацыю.

Аказалася, што зарплата члена ўчастковай камісіі падчас тагачасных выбараў склала… 1 мільён 400 тысяч (гэта прыблізна 73 еўра па курсе Нацбанка на той момант). За кожны дзень датэрміновага галасавання члену мясцовага выбаркама плацілі па 187 тысяч, яшчэ 478 тысяч – у дзень саміх выбараў прэзідэнта.

У апошнюю выбарчую кампанію – на парламенцкіх выбарах 2016 года – заробкі членаў участковых выбарчых камісій, мяркуючы па ўсім, былі меншыя.

*– Дакладную суму я не памятаю – атрымаў на рукі рублёў 70–80,* – расказвае **Вадзім Казначэеў** – член выбарчай камісіі сталічнага ўчастка №486, які месціўся ў Палацы дзяцей і моладзі. – *Кожны дзень падчас датэрміновага галасавання быць на ўчастку ад мяне не патрабавалі. Як і ўсе сябры камісіі, быў там толькі адзін раз. У другі раз разносілі па паштовых скрынях запрашэнні на выбары – не стандартныя чырвоненькія ўлёткі (тут без мяне справіліся, паколькі я прыйсці не змог), а дадатковыя – з напамінам пра буфет і культурную праграму на ўчастку. А падчас дзяжурства займаўся тым, што падпісваў бюлетэні.*

*Асобна за дзяжурства на датэрміновым галасаванні аплаты не было, з намі разлічваліся ў асноўны дзень выбараў, з кожным членам камісіі індывідуальна, і аддалі адразу ўсю суму. Мяркую, што старшыня камісіі атрымаў больш, таму што ён прысутнічаў на ўчастку ўсе шэсць дзён і аб’ём працы ў яго быў большы.*

Такім чынам, атрымліваецца, што зарплата члена выбаркама мясцовай камісіі ў Беларусі складае прыблізна 40–73 еўра ў залежнасці ад выбараў.

Безумоўна, праца ў выбарчых камісіях аплачваецца ва ўсім цывілізаваным свеце. І, напрыклад, у заможнай Германіі член выбаркама падчас выбараў можа атрымаць максімум усяго толькі 50 еўра. Так было на нядаўніх выбарах у Бундэстаг, якія прайшлі 24 верасня.

Чаму так мала? А таму, што ўчастковыя выбарчыя камісіі фарміруюцца ў Германіі толькі ў дзень выбараў з ліку валанцёраў. Датэрмінова немцы таксама галасуюць, але не на ўчастках, а па пошце, таму сэнсу сядзець на ўчастках членам камісій у гэтыя дні няма.

Падчас выбараў у Бундэстаг старшыня выбарчай камісіі Берліна **Петра Міхаэліс-Мерцбах** расказвала беларускім журналістам, што здараецца, калі добраахвотнікаў не хапае. Тады даводзіцца абавязваць папрацаваць у складзе ўчастковых камісій бюджэтнікаў – работнікаў гарадскіх адміністрацый, настаўнікаў і г.д. Але ім такая праца аплачваецца яшчэ ніжэй – 25 еўра. Праўда, у іх ёсць магчымасць атрымаць дадатковы выхадны дзень, што цэніцца работнікамі не менш, чым аплата.

Вось такая арыфметыка…

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГОРКІ РОЗДУМ

Арсен САКУН,
удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС

# Зямля свая – чужая

За час, што прайшоў пасля катастрофы на ЧАЭС, столькі пра яе напісана і расказана, што, здавалася б, і дадаць няма чаго. Тым не менш на падрыхтоўку гэтага артыкула мяне падахвоціла сустрэча з чарнобыльскімі адсяленцамі, маімі землякамі, падчас юбілейнай даты аднаго з іх. Пішу, каб яшчэ раз нагадаць пра сусветную трагедыю, сказаць яшчэ адно добрае слова ў адрас тых, каму не па сваёй волі давялося развітацца са сваёй малой бацькаўшчынай. І яшчэ – каб не даць упасць у забыццё, пахаладзець чалавечаму сэрцу ад горкіх успамінаў.

Цяпер у Стралічаве засталося якіх-небудзь 100 сядзіб, а да чарнобыльскай трагедыі было 500. Быў сведкам тых гарачых спрэчак-дыскусій наконт лёсу вёскі, якія вяліся з красавіка 1986 года. Ламалі дзіды ваенныя, вучоныя-атамшчыкі, медыкі і тагачасныя ўлады. Апошнім надта не хацелася здаваць пад “зону” цэнтральную сядзібу аднайменнага саўгаса – адной з мацнейшых гаспадарак.

Мне згадваюцца фрагменты аператыўнай нарады летняй пары 1986 года з удзелам першага сакратара Гомельскага абкама КПБ А.С.Камая. Тут ішла гаворка пра лёс прылеглых да 30-кіламетровай зоны населеных пунктаў паўднёвых раёнаў Гомельшчыны. Справаздачу даваў камандзір палка, які займаўся дэзактывацыяй гэтых пасяленняў. Вайсковец прамым тэкстам сказаў, што праведзеная дэзактывацыя не дае эфекту, што гэта марная трата сродкаў, матэрыяльных рэсурсаў і вялікая рызыка для здароўя задзейнічаных на гэтых работах людзей...

Але голас разумнай перасцярогі абарваўся вокрыкам маладасведчанага ў гэтых пытаннях чыноўніка. Камай з вышыні свайго тагачаснага становішча адрэагаваў: “Вы разумееце, што гаворыце?! Таварыш генерал, што за размовы ў вашых падначаленых?..”

На што генерал упэўнена адказаў: “Я сваім падначаленым веру”.

Кіраўнік вобласці пачырванеў, на момант страціўшы самаўпэўненасць і ўсеўладны гонар, і больш не задаваў пытанняў.

Тут да месца будзе прывесці і вытрымкі з даведкі №1390 па абследаванні радыяцыйнай абстаноўкі на тэрыторыі школ і дзіцячых дашкольных устаноў Магілёўскай вобласці пасля дэзактывацыі. Яна была праведзена ў перыяд з 22 да 25 верасня 1986 года супрацоўнікамі Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР у 15 установах рэгіёна. Даведка адрасавана першаму сакратару ЦК КПБ і ўраду рэспублікі. У ёй паведамляецца, што ўсе драўляныя пабудовы, борцікі дзіцячых пясочніц, арэлі, агароджы, лавы з’яўляюцца крыніцамі бета-выпраменьвання. На дэзактываванай тэрыторыі назіраецца павышаны фон. Мерапрыемствы па дэзактывацыі тэрыторый названых аб’ектаў не забяспечваюць зніжэння ўзроўню гама-выпраменьвання.

Гэта даведка далей уладных кабінетаў не пайшла, а названыя ўстановы працягвалі функцыянаваць у такіх небяспечных для здароўя людзей умовах.

Гэта адступленне я зрабіў наўмысна, как фрагментарна нагадаць аб тым, хто і як рэагаваў на жахлівыя праявы наступстваў катастрофы на ЧАЭС у той час. І яшчэ аб тым, як непрытворная чыноўніцкая супакоенасць пярэчыла кампетэнтнай думцы і здароваму сэнсу ў ацэнцы наступстваў Чарнобыля. Так і хочацца сказаць: на падставе праведзенага: у той час моцнай дэзактывацыі патрабавалі душы высокапастаўленных чынуш, якія ўсялякім чынам імкнуліся засакрэціць праўду пра Чарнобыль, ахвяруючы лёсамі тысяч людзей, якія патрапілі ў бяду. Некаторыя з тых, хто тады прымаў агідныя рашэнні, і цяпер жывуць, ходзяць па сталічных вуліцах і праспектах, уціснуўшы ў плечы свае галовы і хаваючы вочы ад людзей...

### Чарнобыль выспяваў з распаду духоўнасці

Такая выснова напрошваецца на падставе ўсяго, што напісана, пераказана і расказана аб трагічных падзеях за тры з лішнім дзесяцігоддзі з часу, калі яны здарыліся. У нейкай меры разуменне гэтага сфарміравалася і ў большасці простых грамадзян, асабліва тых, хто на сабе зазнаў незагойныя раны Чарнобыля. На душах гэтых людзей вельмі многа такіх ран. І, відаць, ужо ніколі не вярнуць ім сваю кроў у спакойнае рэчышча...

***

…Хаця тая вечарына насіла ўрачысты характар, але так ці інакш пры размовах у “антрактах” землякі вярталіся на скрыжаванні хойніцкіх дарог, у цяпер хворы родны край. Ім прыемна было сустрэцца і пабачыцца праз гады і адлегласці, узгадаць пра дарагія сэрцу мясціны і прыемныя падзеі дачарнобыльскага часу. Тут былі і песні, і пляскі. Як звычайна, хтосьці і слёзы змахнуў са сваіх вачэй. Каб не быць галасноўным, прывяду выказванні некаторых.

**Уладзімір Кашперка, былы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, механізатар саўгаса “Стралічава”, пасля аварыі перасяленцы ў Мінск:**

– Як цудоўна нам жылося ў родным Стралічаве! Ніколі я не збіраўся нікуды пераязджаць, нават у сталіцу. У мяне гэта перасяленне і цяпер у нырках сядзіць, хаця прайшло столькі год. Гавару так, бо адчуваю пакуты многіх такіх, як і сам, пацярпелых ад аварыі.

Вось бачыце, сёння тут сабраліся тыя, з кім мы жылі ў Стралічаве. У снах і думках яны і цяпер там. Статус гараджаніна для нас – чыстая ўмоўнасць. Ранейшы, хлебаробскі, моцна сядзіць у душы і свядомасці. Наўрад ці калі-небудзь мы пазбавімся ад яго. Калі б можна было, сёння сабраўся б і пайшоў у Стралічаў, але там ніколі не будзе такога добрага жыцця, якім яно было да чарнобыльскай аварыі.

Неяк мне давялося пачытаць вершы Уладзіміра Паўлава. Запомніліся вось гэтыя радкі:

*...Гартае вецер “Геаграфію” –*
*мо дзе падобнае было?*
*Сяло канчае біяграфію,*
*якую шмат вякоў вяло...*

Яны пра наш родны Стралічаў і яшчэ сотні падобных яму пасяленняў. І тых, што пахаваны ў 30-кіламетровай зоне. Бадай, дакладней не скажаш. Заплацілі дарагою цаною не тыя, хто вінаваты, а вось такія, як мы, простыя працаўнікі.

– А як доўга не маглі ўлады разабрацца з адсяленнем Стралічава, – уключаецца ў размову **Міхаіл Пятрэеў**. – Сёння прымаецца адно рашэнне, праз тыдзень – другое, праз які час – трэцяе. Людзі нервуюцца, губляюцца. У іх пухнуць галовы ад разнастайных чутак пра наступствы Чарнобыля. Толькі і гавораць, што пра рэактар, радыяцыю, плутоній ды стронцый. Урэшце сяло атрымала статус зоны наступнага адсялення. Мы так хацелі перасяліцца ўсёй вёскай. Ездзілі доўга па Беларусі ў пошуках такога месца. Нас разумелі, толькі ніхто нічога не зрабіў для гэтага. Таму моцны калектыў распаўся, людзі раз’ехаліся хто куды, бо выдзеленага жылля ў адным месцы для ўсіх не хапіла. А многія засталіся на месцы дажываць. Неўзабаве аблвыканкам даў дазвол на пражыванне тут. У друку з’явіліся аб’явы аб наборы працоўнай сілы ў саўгас. Як гаворыцца, можна так, можна і гэтак. Але колькі год прайшло, саўгасу так і не ўдалося падняцца з калень. Жыццё тут ледзь дыхае, вытворчасць падае. Па аб’явах сюды з’ехаліся далёка не лепшыя кадры.

Стралічаў аказаўся ля самай мяжы з адселенай зонай. Тут людзі сядзяць як на парахавой бочцы. Радыяцыя – нябачны акупант. Яе не адчуваеш. А калі так, значыць, яе няма. Так мяркуюць і цяперашнія жыхары Стралічава. Не думаю, што ўсе, але многія.

> **Ад аўтара**. Цяпер вакол 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай АЭС пражывае вялікая колькасць людзей. Яны знаходзяцца пад пастаянным уздзеяннем малых доз радыяцыі. Больш за 115 тысяч чалавек былі эвакуіраваны з 30-кіламетровай зоны. Усяго Беларусь страціла пасля аварыі 485 вялікіх і малых вёсак. 70 з іх пахаваны навечна. За гады Вялікай Айчыннай вайны фашысты знішчылі на Беларусі 619 вёсак. У вайну загінуў кожны чацвёрты беларус, ад радыяцыі пацярпеў, лічы, кожны пяты.

Тут да месца прывесці выказванне аднаго медыка, дасведчанага ў гэтых пытаннях: “У чалавека няма органаў пачуцця для папярэджвання аб радыяцыйнай небяспецы. Псіхалагічная насцярожанасць і імкненне да ажыццяўлення мер радыяцыйнай абароны з 1986 года змяніліся прывыканнем і пагардай да мер радыяцыйнай абароны”.

У выніку аварыі з сельскагаспадарчага абароту было выведзена 5 млн гектараў зямлі (частка з іх вернута для аграрнага выкарыстання). У знямелым маўчанні зоны палеткі, лясы, лугі, азёры.

(Заканчэнне на 3-й стар.)



СІТУАЦЫЯ



# За што прэсуюць Міхаіла Жамчужнага?

*Праваабаронца атрымлівае ў калоніі адно спагнанне за адным і практычна не выходзіць са штрафнога ізалятара.*

Днямі Міхаіл Жамчужны выйшаў з ШІЗА, і гэта было ўжо 11-е спагнанне, якое асуджаны атрымаў з пачатку жніўня бягучага года ад адміністрацыі калоніі №9 г.Горкі. Чаму яго пераследуюць?

Праваабаронцы кажуць, што праблемы ў Жамчужнага пачаліся пасля пераводу ў Горацкую калонію, дзе з патурання адміністрацыі для яго былі створаны невыносныя ўмовы для адбыцця пакарання, арганізавана кампанія яго цкавання, звязаная з усталяваннем у асяроддзі зняволеных нефармальных адносін.

– Сітуацыя нагадвае замкнёнае кола, – распавёў “Народнай Волі” кіраўнік праваабарончай установы “Нью Платформ Інавэйшн” **Андрэй Бандарэнка**. – Міхаіла пастаянна адпраўляюць у штрафны ізалятар, бо чалавек адмаўляецца ісці ў атрад, у якім сабраліся зняволеныя з так званым “нізкім статусам”. Усе, хто быў за кратамі, ведаюць, што значыць патрапіць у такі атрад. А кіраўніцтва калоніі кваліфікуе такія адмовы як “невыкананне законнага патрабавання прадстаўніка адміністрацыі”. У выніку канвеерам выносяцца спагнанні, чалавек практычна не выходзіць з ШІЗА.

**– Не так даўно Міхаіла Жамчужнага хацелі судзіць у калоніі за тыя самыя спагнанні. Яго маглі перавесці на турэмны рэжым утрымання, але раптам суд адмянілі. Што здарылася?**

– Можна выказваць толькі версіі. Магчыма, не захацелі надаваць справе больш гучны рэзананс, бо Міхаіл усё-такі прызнаны праваабаронцамі палітычным зняволеным. Калі б працэс зрабілі адкрытым (а мы на гэтым настойвалі), то на судзе выкрыліся б усе факты ціску на Жамчужнага, і гэтыя факты абавязкова былі б надрукаваны ў СМІ. Я наогул не разумею: няўжо адміністрацыі калоніі так складана перавесці Міхаіла не ў 13-ы атрад, а ў нейкі іншы? Але ж мы бачым іх “прынцыповую пазіцыю” ўжо некалькі месяцаў. Такім чынам яны спрабуюць “зламаць” Жамчужнага, а той не здаецца. Вось і ўся сутнасць канфлікту.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

Ігар КОМЛІК:

# «Вярніце пашпарт!»

*Фігурант “справы прафсаюзаў” звярнуўся да следчых.*

Нагадаем, што бухгалтар прафсаюза РЭП **Ігар Комлік** утрымліваўся пад вартай з 2 жніўня ў межах крымінальнай справы, узбуджанай супраць яго і старшыні прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса РБ (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры).

2 кастрычніка ён быў вызвалены з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе, але да гэтага часу яму не вяртаюць пашпарт.

*“Дакумент забралі, калі мяне затрымлівалі,* – распавёў Ігар Комлік. – *Раней казалі, што, маўляў, аддадзім яго ў любы момант, калі той спатрэбіцца. Зараз прашу следчага: “Аддайце пашпарт!” У адказ – цішыня. Я ўжо нават з гэтай нагоды адмысловы ліст следчаму напісаў, можа быць, гэта дапаможа, бо адсутнасць пашпарта дадае шмат нязручнасцяў. Не магу атрымаць банкаўскую картку, каб пералічыць заробак, не прайсці абследаванне ў бальніцы, якая знаходзіцца не па месцы прапіскі… Буду спадзявацца, што сітуацыя ў бліжэйшы час вырашыцца”.*

**Віктар ШПАК.**

БЕСХОЗЯЙСТВЕННОСТЬ!

# Вырастили и… сгноили

## Почему директор Воложинского льнокомбината Александр Бышенков резко прервал разговор с журналистом и убежал из своего кабинета

### Чем недовольны грибники

– Я видела, как механизаторы здесь сеяли лен, как его обрабатывали от болезней и вредителей. Видела, как убирали. А потом смотрю -- лежит этот лен на земле даже не очесанный от семян. И никому не нужен. Месяц лежит, и два, и три… А дожди идут. И он сгнил… Зло меня взяло: обидно стало – люди работали, старались. Как же так? И я решила позвонить самому министру сельского хозяйства. Секретарь в приемной переключила меня на министра, я даже фамилию его не знаю. И что вы думаете?

Пенсионерка из Минска Галина Константиновна Буйницкая разволновалась и замолчала. Потом, немного успокоившись, продолжила:

– Министр меня выслушал, а потом сказал: «Перезвоните моему заместителю» – и назвал номер телефона. Позвонила заместителю. Заместитель ответил: «Позвоните в облисполком». Звоню в облисполком. «Почему вы нам звоните? – одернул меня злой мужской голос. – Звоните в райисполком…»

Галина Константиновна снова замолчала. Жду, что будет говорить дальше.

– Нервы мои не выдержали. Не поверите, но я таким матом заорала, что мне, старой женщине, стыдно стало. Да что вы за начальники? Что вы творите?! Зачем надо мной издеваетесь?! Почему вы отфутболиваете людей один к одному? Я что – свои интересы защищаю? Мне жалко людей, которые в жару и дождь работали в поле. Они пахали землю, удобряли ее, сеяли семена… Все делали как надо – я это видела. И на тебе – теперь все пропало! Лен сгнил. Не могла я на все это смотреть равнодушно. Потому и обратилась к главному редактору «Народной Воли». Молодец редактор: сразу же дал машину и направил со мной в командировку вас, журналиста – чтобы я показала, где гниет этот лен.

…И вот мы на огромном поле возле деревни Мацевичи, что в Воложинском районе. Здесь находится дом родителей Галины Константиновны. Они давно умерли, и женщина приезжает сюда теперь как дачница в теплое время года, а живет она в Минске.

– Вот здесь, в этом месте, – показывает Буйницкая, – в землю была вбита небольшая табличка, и на ней было написано, что эти поля арендует Воложинский льнокомбинат, их общая площадь составляет 142 гектара. И посеян здесь лен. Когда он рос и цвел – красиво было, а теперь что? Больно смотреть на все это.

Увидев, что по полю ходят какие-то люди, к нам из деревни подошла Ирина Касперович.

– Я живу здесь, – сказала она. – И помогаю жить одиноким старикам и старушкам. Нас в деревне всего пять человек.

Поняв, кто я и откуда, чем интересуюсь, тихим голосом сказала:

– Что тут говорить? Вы сами все видите. Вдоль дороги механизаторы хотели запахать тресту, но у них ничего не получилось. Треста помятая и скомканная торчит из земли. А вот там, на взгорке, видны черные пепелища. Туда механизаторы свозили гнилую тресту и хотели ее сжечь. А она мокрая, вся не сгорела, потому и осталась незапаханной. И там… И вон там… Видите, сколько ее обгорелой лежит…

Я вижу следы не только бездумного подпала, но и аккуратно разложенные льнокомбайнами ленты тресты, которые давно «вросли» в землю, и поднимать их уже нет никакого смысла: треста не мнется, а рвется в руках – сгнила окончательно. По всему видно, ее никто и никогда не пытался поднять, отправить на комбинат, отсортировать и получить уже не волокно, а хотя бы паклю. Не знаю, какова судьба льна, выращенного на других землях, арендуемых комбинатом, но то, что я вижу здесь, возле деревни Мацевичи, – настоящее преступление. Как еще это понимать? И как это можно оценить?

Галина Буйницкая, с которой я сюда приехал, предлагает подняться на взгорок и подойти поближе к лесу. Делаем, сотню-другую шагов и что видим...

– Вот они, кучи гнилой тресты, – говорит Буйницкая. – Одна… Другая… Третья. А вон и четвертая, пятая. Чуть дальше смотрите – шестая. Механизаторы спрятали эту гниль с глаз людских. Думали – с дороги никто не заметит. Заметили. Теперь все жители нашей деревни и других деревень знают. А как же! Мы сюда осенью приходили за грибами. Не поверите, прямо на окраине леса росли боровики. А потом что? Этой гнилью механизаторы закрыли наши грибы. Если бы не грибы – мы бы, может, и не знали бы, что здесь образовалась свалка льна. Пожалуйста, полюбуйтесь… Где вы еще такое увидите?

Слов нет! Выращивали механизаторы лен, надеялись получить за свою работу хорошие деньги. А что в итоге? Получили гниль и отвезли ее в лес. Конечно, не по своей воле: они ведь исполнители. Без указаний хозяина – директора комбината, конечно же, дело тут не обошлось. Поэтому к нему у меня немало вопросов.

### «Извините, спешу в райисполком»

На проходной комбината, проверив мои документы, дежурная сообщила:

– Директор на территории. Сегодня никуда не уезжал.

Повезло. Но Александра Бышенкова в кабинете не оказалось. Я его увидел у главного экономиста. Узнав, кто я и откуда приехал, попросил, пока он занят, побеседовать (если мне нужно) с главным бухгалтером. А повод для такой беседы у меня был: в редакции районной газеты «Працоўная слава» я узнал, что на льнокомбинате люди возмущены тем, что им месяцами задерживают зарплату. Почему?

– Я не буду отвечать на ваши вопросы, – категорично заявила главбух. – Я – на больничном. И фамилию свою называть вам не буду.

– Неужели состояние вашего здоровья не позволяет вам сказать хотя бы пару слов?

– Вы что, меня не поняли? Не хочу и не буду с вами разговаривать.

Бесполезно было дальше что-то говорить. Узнав, что я журналист и интересуюсь проблемой зарплаты, женщина не вымолвила ни слова.

Директор комбината к этому времени освободился. Идем к нему в кабинет. В коридоре он спрашивает:

– Ну что? Какие вопросы? У меня нет времени. Я спешу. Давайте быстренько поговорим.

Заходим в кабинет. Он не знает, что до встречи с ним я был там, где «спрятана» гнилая льнотреста, все видел своими глазами, разговаривал с местными жителями, механизаторами и теперь мне осталось лишь, мягко говоря, кое-что уточнить. А главное – найти ответы на многие вопросы, которые начинаются со слова «Почему?». А также: «Кто виноват?» Но, чтобы не вспугнуть Бышенкова, решил начать разговор издалека. Дескать, сколько земли комбинат арендует в этом году в хозяйствах района, как прошел сев и уход за посевами, довольны ли урожаем и так далее и тому подобное. Директор с удовольствием ответил:

– Во всех хозяйствах лен вырос отличный. Мы его вовремя убрали. Вот тресту свезли с полей на комбинат. Сейчас ее обрабатываем. Правда, осенью нам мешали дожди, но мы с работой управились. На полях везде чисто. По плану должны были получить 3500 тонн тресты, получили 3150 тонн. На 10 процентов план недовыполнили. Если бы не дожди…

Вот как! Вроде бы неплохо. Но когда я спросил: «А это ваш лен был посеян возле деревни Мацевичи?» – Александр Алексеевич, глянув на часы, вскочил со стула и со словами «Ой, извините, спешу в райисполком! Уже опаздываю. Меня там ждет председатель» как ошпаренный выскочил из кабинета.

Ничего себе фокус! Сижу в директорском кабинет один пять минут, десять: а вдруг вернется Бышенков, извинится и скажет, что что-то перепутал (время, например, или день), давайте продолжим разговор.

Что ж, всякое бывает. Но по опыту работы знаю: если начальник куда-то спешит и продолжить беседу не может – извинится и обязательно вместо себя предложит компетентного собеседника, а потом поинтересуется, на все ли вопросы журналист получил ответы. Но чтобы меня одного оставить в кабинете и, прямо скажем, убежать… Такого еще не случалось.

Шофер редакционной машины, который ожидал меня у проходной комбината, удивился:

– Что-то вы быстро справились.

Объяснил почему.

– А вы знаете, никто из комбината никуда не уезжал. Пока я здесь стою, никаких движений через проходную или ворота не было.

Об этом мне поведала и дежурная на проходной. Подумалось: всякое бывает. А вдруг у директора есть черный выезд или выход. В любом случае, если ты, уважаемый директор, спешишь в райисполком, то и я сейчас туда подъеду. Вот и поговорим обо всем, что нам нужно, с председателем райисполкома.

Секретарь в приемной главы района сказала:

– Николая Анатольевича Астрейко в кабинете нет. После планерки он уехал по хозяйствам района.

Это же подтвердил и постовой милиционер, дежуривший на входе в райисполком. А еще он сказал, что сегодня здесь директор льнокомбината не появлялся.

Как все это понимать?

Немало был удивлен услышанному первый заместитель председателя райисполкома, начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Владимир Сергеевич Чичкин.

– Директор льнокомбината мне доложил: весь лен убран, вся треста с полей свезена и находится в шохах под крышей. Сейчас идет ее переработка.

– А можно ли посмотреть сводки полевых работ? Интересно, как в районе шла уборка льна? В какие сроки была поднята со стлищ треста?

– Работы закончились, и все сводки мы уничтожили, они нам не нужны.

– Найдите в компьютере.

– Убрали их из компьютера.

О чем дальше можно было говорить с начальником управления? У меня, например, данные по всем культурам, площадям и урожаям по стране в целом, по областям и районам есть и за пять, и за десять, и за 25 лет. Зачем они мне? Я ведь не руководитель, казалось бы, они мне не нужны. Но, когда пишешь материал, они всегда могут пригодиться. А тут как все это понимать? Можно ли без крайне необходимых данных проанализировать ситуацию, сделать правильные выводы?

– Понял, – говорит Владимир Чичкин. – Спасибо за подсказку. Работаю начальником управления недавно, все азы в работе еще не освоил. Постараюсь исправить упущенное. Ну а что касается льна, то это для меня плохая новость. Я поверил директору комбината, он ведь сказал, что у него все хорошо, а на самом деле видите, что там творится… Завтра же выеду в Мацевичи и разберусь, в чем дело. Терпеть такое положение дел, о котором вы рассказали, никак нельзя. Вырастить урожай и сгноить его – даже не верится. Неужели директор комбината обманул?

Прокурор района Сергей Анатольевич Габрукович, внимательно выслушав меня, коротко и недвусмысленно сказал:

– Разберемся.

Верим. И ждем ответа.

**Александр ХОРОБРОВЕЦ.**
*Воложинский район.*

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

Як і людзі, яны закладнікі радыяцыі і адвольных эксперыментаў з так званым мірным атамам.

Брудны след Чарнобыля зафіксаваны ў 17 краінах свету...

– Нечакана так прыйшло да нас чарнобыльскае гора, – уключылася ў гаворку **Аляксандра Тарасенка**. – Я працавала ў магазіне. Многа ваенных заходзіла да нас. Мы не ўпускалі магчымасці распытаць іх пра Чарнобыль. Галава ішла кругам ад іх гаворак. І маёры, і палкоўнікі раілі адсюль як хутчэй з’язджаць. Яны прама казалі, што тая дэзактывацыя – гэта дурная работа, адно як насіць ваду ў вядры без дна.

Па сабе ведаю, як у той сітуацыі незаўважна адольвалі хваробы. Ні з таго ні з сяго набягае санлівасць, млоснасць, апатыя. Галава гудзе, рукі і ногі нямеюць. Ходзіш сам не свой. Пойдзеш у бальніцу – нічога не знаходзяць. Урачы гавораць: папіце тое, паспрабуйце гэтае... Глынаеш жменямі тыя лекі, а стан здароўя не паляпшаецца.

А што да Стралічава, то ніколі не забыцца на дачарнобыльскае жыццё там. Наш побыт вызначаўся трываласцю і ўстойлівасцю. Добра зараблялі, мелі жыллё. Была надзея, бачылася будучыня. Асядала ў саўгасе моладзь. Шкада, што адышло ўсё гэта ў нябыт. А ўсе мы сталі выгнаннікамі. Чарнобыльцамі і цяпер нас паўсюль называюць. Так, мусіць, і памром пад гэтым ярлыком.

Многія былі ліквідатарамі. Мелі нейкія льготы. Цяпер усіх прыраўнавалі да пацярпелых. Усё аднялі. Засталіся ў ліквідатараў толькі балючыя чарнобыльскія раны. Не так даўно ад цяжкай хваробы адышоў з жыцця наш перасяленец. Ледзь за 60 было яму...

> **Ад аўтара**. Аварыя на ЧАЭС – буйнейшая за ўсю гісторыю атамнай энергетыкі як па колькасці загінуўшых ад яе наступстваў людзей, так і па эканамічным уроне.

Толькі для ліквідацыі яе наступстваў былі мабілізаваны неверагодныя па колькасці рэсурсы і сотні тысяч чалавек. У Чарнобыль гэтыя людзі накіроўваліся так, як у гады Вялікай Айчыннай на фронт. Салдаты дзеючай арміі, рэзервісты, афіцэры розных званняў – аж да генералаў. Пераважна – людзі параўнальна маладога ўзросту, поўныя сіл, у каго наперадзе была добрая палова, а то і больш жыцця. Рызыкуючы сваім здароўем, яны ратавалі ўсіх астатніх.

Верталётчыкі (імі было зроблена 1800 “баявых” узлётаў над разбураным рэактарам пры яго ўтаймаванні), пажарныя, дазіметрысты – гэта тыя, хто прыняў на сябе асноўны цяжар першага этапу ліквідацыі ядзернай катастрофы. Многія дачасна адышлі ад нас. А колькі пакутуе ад радыяцыі, ніхто не скажа ніколі! Ніводзін урач цяпер не напіша ў медыцынскай картцы такога пацыента, што яго хвароба ад чарнобыльскіх наступстваў. На дзяржаўным узроўні Чарнобылю на Беларусі загадана ледзь не сысці ў нябыт. І гэтая хлусня хутка прыжываецца.

Што тут скажаш – такая суровая наша рэальнасць.

– Мне згадваецца расповед былога падводніка, – уступіў у нашу размову **Мікалай Курленка**, таксама чарнобыльскі перасяленец, цяпер жыве ў Вілейскім раёне. – Служыў ён на атамнай лодцы. На ёй адбылася аварыя, пасля якой на бераг спісалі ўсю каманду. Ад радыяцыі ўсе маракі цяжка хварэлі і хутка памерлі. Рэактар на падлодцы ў параўнанні з чарнобыльскім – капля ў моры. Куды вядзе чарнобыльская аварыя і што за ёй ідзе – аднаму Богу вядома...

> **Ад аўтара.** У выніку аварыі на ЧАЭС з рэактара, які ўтрымліваў больш за 190 тон ядзернага паліва, у навакольнае асяроддзе было выкінута каля 50 тон. Актыўнасць гэтага паліва дасягала 15–20 тыс. рэнтгенаў у гадзіну. Гэта такія небяспечныя радыенукліды, як цэзій, ёд, барый, стронцый, плутоній і іншыя. Радыенукліднаму забруджванню падверглася значная частка Беларусі. Узроўні забруджвання радыеактыўным ёдам у многіх раёнах былі настолькі высокія, што пачатковы перыяд апраменьвання вельмі вялікай колькасці людзей класіфікаваўся спецыялістамі як перыяд “ёднага ўдару”.

У народзе гавораць: калі ёсць бяда, трэба, каб была і надзея. У дачыненні да наступстваў Чарнобыля гэта надзея вельмі і вельмі далёка. Бо перыяды паўраспаду некаторых выкідаў рэактара – тысячы гадоў. Столькі людзі не жывуць.

Акадэмік Лягасаў, які працаваў на ўтаймаванні разбуранага рэактара ў складзе ўрадавай камісіі, у сваім перадсмяротным артыкуле назваў аварыю падзеяй планетарнага маштабу, якая ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва як вывяржэнне вядомых вулканаў, гібель Пампеі або што-небудзь блізкае да гэтага… Аварыя будзе мець вельмі доўгачасовыя вынікі. “Пасля таго як пабываў на ЧАЭС, – пісаў акадэмік, – я зрабіў адназначную выснову, што чарнобыльская аварыя – гэта апафеоз, вяршыня ўсяго таго няправільнага вядзення гаспадаркі, якое ажыццяўлялася ў нашай краіне на працягу многіх дзясяткаў гадоў… Праграма правядзення эксперыментаў складалася надзвычай нядбайна і неакуратна… Ніякай увагі да стану прыбораў, абсталявання… Адзін дырэктар станцыі адкрыта гаварыў: “А чаго вы хвалюецеся? Ды атамны рэактар – гэта самавар, гэта значна прасцей, чым цеплавая станцыя, у нас вопытны персанал, і ніколі нічога не здараецца…”

Дарэчы, на Чарнобыльскай АЭС у дааварыйны перыяд былі зафіксаваны 104 аварыйныя сітуацыі, з якіх звыш 30 – па віне абслугоўваючага персаналу. Тут вялося будаўніцтва 5-га і 6-га энергаблокаў.

(Лягасаў адпрацаваў на ЧАЭС 4 месяцы замест 3 тыдняў, устаноўленых для непасрэдных удзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі. Гэта ён вынайшаў састаў матэрыялаў, якія былі выкарыстаны для ўтаймавання разбуранага рэактара. Скончыў жыццё самагубствам у красавіку 1988 года.)

* * *

…У тую сустрэчу з перасяленцамі столькі было пераговорана на балючую для іх чарнобыльскую тэму.

– Толькі ў вайну, мабыць, так прагна сачылі за паведамленнямі з фронту, як мы ў тыя дні за паведамленнямі з Чарнобыля, – выказаў сваю думку былы стралічаўскі механізатар **Леанід Тарасенка**. – Вельмі доўга з намі абыходзіліся… маўчаннем. Толькі сціплыя радкі ў газетах. Кшталту таго, што сітуацыя стабілізуецца. Згадваю інструкцыі па паводзінах людзей, якія пражываюць ля зоны. Дзіву даваліся мы ад такіх рэкамендацый. Чакалі паведамленняў і баяліся. Жылі толькі чуткамі. Уладзе больш не было веры. Яна для нас стала як чужая…

> **Ад аўтара.** Гартаю газеты таго часу. З інфармацыі Беларускага тэлеграфнага агенцтва: “Радыяцыйная абстаноўка на тэрыторыі Украіны і Беларусі стабілізуецца… У Хойніцкім і Брагінскім раёнах, вёсках і пасёлках людзі працягваюць працаваць на сваіх рабочых месцах, жывуць звычайнымі клопатамі…”

Пра небяспечную радыяцыйную абстаноўку, меры перасцярогі для насельніцтва – ні гуку.

Усесаюзная партыйная газета “Правда” публікуе інтэрв’ю са старшынёй Савета Міністраў БССР А.Пятровым. Вуснамі гэтага дзяржаўнага дзеяча сцвярджаецца, што на змену перыяду эмоцый прыйшоў час тэхнічна складанай, доўгатэрміновай, мэтанакіраванай і комплекснай работы. Галоўная мэта – не дапусціць адмоўнага ўплыву радыяцыі на здароўе людзей…

Намеры, прама скажам, што трэба. Шкада, у многім яны так і засталіся ў газетных радках. Відаць, і па той прычыне, што тагачаснае кіраўніцтва рэспублікі запэўніла маскоўскае ў тым, што Беларусь сама справіцца з наступствамі аварыі на ЧАЭС. Маўляў, Саюз і так патраціў многа сродкаў на ўтаймаванне разбуранага рэактара.

Недзе праз месяц пасля аварыі на ЧАЭС газеце “Советская Белоруссия” даў інтэрв’ю тагачасны міністр аховы здароўя БССР Мікалай Саўчанка. Яно апублікавана пад загалоўкам “Паводле чутак і аўтарытэтна”. Вось што сцвярджаў галоўны вартавы здароўя: *“...Цяпер абстаноўка ў рэспубліцы нармальная, ва ўсіх раёнах Гомельскай вобласці вядуцца сельгасработы. Сёння ўжо можна гаварыць аб бясшкодным узроўні радыяцыі на ўсёй тэрыторыі, за выключэннем зоны адсялення… У асобных выпадках не рэкамендуецца даваць малако дзецям. Гэта не сведчыць, вядома ж, аб наяўнасці ў ім шкоднай колькасці радыеактыўных рэчываў…”*

“Сельская газета” 25 мая 1986 года надрукавала артыкул за подпісам начальніка галоўнага санітарна-эпідэміялагічнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя Бур’яка. Ён названы “Здароўю пагрозы няма”. Вось што пісаў Бур’як: *“Прыкметнае павышэнне радыяцыйнага фону адзначалася ў Брагінскім, Хойніцкім і Нараўлянскім раёнах. Але сёння ў нас няма падставы лічыць, што ён уяўляе небяспеку для здароўя насельніцтва…*

*…Калі сыходзіць з таго, што аварыя адбылася параўнальна даўно, я мяркую, што праз 2–3 тыдні можна будзе ўжываць зеляніну…*

*…Адносна будучага ўраджаю сельгаскультур магу сказаць, што ён будзе абсалютна бяспечным…*

*…Радыяцыйная абстаноўка з кожным днём паляпшаецца, і ў хуткім часе хвалюючыя жыхароў рэспублікі праблемы будуць зняты з парадку дня…”*

Вось так дурманілі людзей тыя, хто павінен быў гаварыць праўду, няхай яна і горкая. Яны заводзілі ў зман просты люд, замест таго каб папярэдзіць аб небяспецы, хоць чым дапамагчы суайчыннікам, якія трапілі ў бяду.

Вядома ж, душы пацярпелых не прымалі такой хлусні чыноўнікаў. Марна тыя разлічвалі, што падобнымі публікацыямі ім удасца супакоіць чарнобыльскіх закладнікаў, адцягнуць іх ад сумных думак пра свой горкі лёс.

Мне, дарэчы, давялося сустракацца з Саўчанкам у дні адсялення людзей з 30-кіламетровай зоны ў Хойніцкім раёне. Заехаў ён да нас з першым сакратаром райкама партыі. На здзіўленне, міністр аховы здароўя толькі і спытаўся ў мясцовых людзей тады: колькі жывёлы вывезлі з фермы і колькі засталося? І гэта ў той час, калі чарнобыльская бяда насядала на ўсё жывое. Яе гарачае дыханне сыходзіла ад разбуранага рэактара, над якім віселі верталёты. Падумалася: як мог міністр, які наведваў у той час зону, праз нейкі месяц пасля аварыі гаварыць пра бясшкодны ўзровень радыяцыі на ўсёй тэрыторыі рэспублікі?..

*“Засакрэчанасць маштабаў і вынікаў чарнобыльскай катастрофы – злачынства супраць свайго народа”,* – такую выснову зрабіў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР А.Сцепаненка.

Але, як гаворыцца, былога не вернеш, напісанага не перапішаш начыста. Нельга аддаваць забыццю нічога з пражытага. Тым больш што ніхто з нас не застрахаваны ў далейшым ні ад бяды, ні ад гора. І таму падобнага роду занатоўкі могуць аказацца прыдатнымі – гэта напамінак і ўрок, як трэба і як нельга будаваць адносіны паміж тымі, хто аказаўся ў небяспецы і каго яна абмінула.

